# Голас Радзімы

№ 49 (1775)
9 снежня 1982 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**Закончыліся Дні Беларускай ССР, якія праходзілі ў Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР з 29 лістапада па 3 снежня. За гэты час адбылося шмат важных і цікавых мерапрыемстваў, у якіх прымалі ўдзел члены дэлегацыі нашай рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: дэлегаты прыйшлі на Красную плошчу, каб ад імя беларускага народа ўскласці вянок да Маўзалея У. І. Леніна; члены беларускай дэлегацыі аглядаюць экспазіцыю Беларускай ССР на выстаўцы «У сям'і адзінай»; у час правядзення Дзён у маскоўскіх кінатэатрах дэманстраваліся белару[illegible] мастацкія і дакументальныя фільмы. Адзін з іх — дакументальная стужка «Свят[illegible] канцэрт», кадр з якога мы змяшчаем на гэтай старонцы.**

**Фота В. ВІТЧАНКІ, А. ТАЛОЧКІ, П. КАСТРАМЫ.**



падзеі · людзі · факты

## ГУТАРКА Ў КРАМЛІ

3 снежня Генеральны сакратар ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Ю. У. Андропаў, член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. Ціханаў і член Палітбюро ЦК КПСС, міністр замежных спраў СССР А. Грамыка сустрэліся ў Крамлі з дэлегацыяй у саставе караля Іарданіі Хусейна Бен Талала, намесніка Старшыні Савета Міністраў, міністра замежных спраў Сірыі А. Х. Хадама, міністра замежных спраў Саудаўскай Аравіі С. аль-Фейсала, дзяржаўнага міністра па замежных справах Марока А. Бусеты, міністра замежных спраў Іарданіі М. аль-Касема, міністра замежных спраў Туніса Б. К. эс-Себсі, міністра замежных спраў Алжыра А. Т. Ібрагімі, члена Выканкома Арганізацыі вызвалення Палесціны М. Абаса і Генеральнага сакратара Лігі арабскіх дзяржаў Ш. Клібі.

Кароль Хусейн і іншыя члены дэлегацыі праінфармавалі савецкае кіраўніцтва аб рашэннях, прынятых прайшоўшай у верасні гэтага года ў Фесе агульнаарабскай нарадай на вышэйшым узроўні. Адобраныя гэтай нарадай прынцыпы блізкаўсходняга ўрэгулявання прадугледжваюць — у якасці ключавых элементаў — выхад Ізраіля з усіх арабскіх тэрыторый, якія ён акупіраваў у 1967 годзе і пазней, у тым ліку з арабскай часткі Іерусаліма, і стварэнне незалежнай палесцінскай дзяржавы пад кіраўніцтвам АВП — адзінага законнага прадстаўніка палесцінскага народа.

Ю. У. Андропаў пацвердзіў нязменнасць прынцыповага курсу, якога прытрымліваецца ў блізкаўсходніх справах Савецкі Саюз, — ён заўсёды стаяў і будзе стаяць на баку справядлівай справы арабскіх народаў, іх барацьбы супраць ізраільскай агрэсіі, за свабоду і незалежнасць, за справядлівы мір на Блізкім Усходзе.

Пры абмене думкамі аб практычных шляхах дасягнення блізкаўсходняга ўрэгулявання ўвага арабскай дэлегацыі была звернута да прапановы аб скліканні спецыяльнай міжнароднай канферэнцыі па Блізкаму Усходу з удзелам усіх зацікаўленых бакоў, уключаючы Арганізацыю вызвалення Палесціны.

Абодва бакі рашуча асудзілі агрэсію Ізраіля ў Ліване і пацвердзілі сваё патрабаванне неадкладнага вываду ізраільскіх акупацыйных войск з гэтай краіны.

## ПЛЕНУМ ЦК КП БЕЛАРУСІ

2 снежня 1982 года адбыўся IX пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.

Пленум абмеркаваў вынікі лістападаўскага (1982 года) Пленума ЦК КПСС і задачы партыйных арганізацый рэспублікі. З дакладам па гэтаму пытанню выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі Ц. Кісялёў.

На пленуме быў заслуханы таксама даклад «Аб Харчовай праграме Беларускай ССР на перыяд да 1990 года», з якім выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР, старшыня Камісіі Прэзідыума Савета Міністраў БССР па пытаннях аграпрамысловага комплексу Ю. Хусаінаў.

Па абмеркаваных пытаннях пленум прыняў пастановы. Адобраны ў асноўным праекты Дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця, Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР на 1983 год. Адобрана таксама Харчовая праграма Беларускай ССР.

Пленум разгледзеў арганізацыйнае пытанне — выбраў Ю. Хусаінава членам Бюро ЦК Кампартыі Беларусі.

## СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

3 снежня 1982 года ў Мінску адбылася шостая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дзесятага склікання. На ёй былі разгледжаны пытанні аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1983 год і аб ходзе выканання Дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР у 1982 годзе, аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1983 год і выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1981 год, аб утварэнні пастаяннай Камісіі па энергетыцы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Зацверджаны Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Вярхоўны Савет аднагалосна прыняў Закон аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1983 год і пастанову аб ходзе выканання Дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця Беларускай ССР на 1982 год, а таксама шэраг законаў і пастаноў.

НА СЕСІІ ААН

## У АБАРОНУ ПРАВОЎ НАРОДА ПАЛЕСЦІНЫ

Міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч выступіў на пленарным пасяджэнні XXXVII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па пытанню аб Палесціне.

Вось ужо больш за трэць стагоддзя, сказаў ён, шматпакутны чатырохмільённы палесцінскі народ па віне Ізраіля і падтрымліваючых яго імперыялістычных сіл перажывае страшную трагедыю.

Агрэсіўныя дзеянні Ізраіля і дапамога яму з боку ЗША сурова асуджаюцца на розных форумах ААН. Апошняе таму сведчанне прайшоўшае гэтымі днямі спецыяльнае пасяджэнне Камітэта па ажыццяўленню неад'емных правоў палесцінскага народа, прысвечанае Міжнароднаму дню салідарнасці з народам Палесціны.

А. Гурыновіч прывёў канкрэтныя даныя з дакументаў ААН аб беспрэцэдэнтным узроўні прыгнёту і жорсткасці ізраільскіх акупантаў.

Напомніўшы вядомыя прынцыпы вырашэння палесцінскай праблемы і ў цэлым блізкаўсходняга ўрэгулявання, прынятыя на нарадзе кіраўнікоў арабскіх краін у Фесе, якія не разыходзяцца з тым, за што многія гады змагаецца Савецкая дзяржава, прамоўца падкрэсліў, што першараднае значэнне мае цяпер адзінства дзеянняў арабскіх краін у адпаведнасці з дасягнутай раней дагаворанасцю.

Дэлегацыя Беларускай ССР будзе і ў далейшым выступаць у падтрымку справядлівай справы палесцінскага народа на чале з Арганізацыяй вызвалення Палесціны, падкрэсліў міністр замежных спраў БССР.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## АБ ПРАБЛЕМАХ, ШТО ХВАЛЮЮЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА

На IV нечарговай сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО якая праходзіць у Парыжы, у агульнапалітычнай дыскусіі па праекту сярэднетэрміновага плана арганізацыі на 1984—1989 гады выступіў кіраўнік дэлегацыі БССР І. Антановіч.

Мы аддаём належнае сакратарыяту ЮНЕСКО, сказаў ён, генеральнаму дырэктару пану М'Боў за падрыхтоўку вельмі змястоўнага праекта, пабудаванага ў асноўным на мэтавым і комплексным падыходзе да важных праблем, якія хвалюючь усё прагрэсіўнае чалавецтва.

Адзначыўшы, што ў праекце плана зафіксаваны абавязак павялічыць уклад ЮНЕСКО ў справу міру, міжнароднага ўзаемаразумення, свабоды народаў і правоў чалавека, у выкараненне каланіялізму, неакаланіялізму, расізму і апартэіду, прамоўца сказаў што ЮНЕСКО не застаецца ў баку ад гарачых праблем, якія хвалююць усё чалавецтва сёння і ў значнай меры прадвызначаць яго лёс заўтра.

На думку дэлегацыі БССР, намаганні павінны быць накіраваны перш за ўсё на павышэнне ролі і аўтарытэту ЮНЕСКО ў барацьбе за ліквідацыю пагрозы ядзернай вайны, неадкладнае спыненне ядзерных выпрабаванняў, якія ствараюць сур'ёзную небяспеку існаванню экалагічных сістэм у цэлым, а таксама на ахову рэдкіх жывых арганізмаў і раслін.

Беларуская ССР, сказаў у заключэнне прамоўца, гатова і ў далейшым уносіць свой уклад у ажыццяўленне праграм ЮНЕСКО, накіраваных на развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў імя сацыяльна-культурнага прагрэсу чалавецтва, у імя дабрабыту і шчасця ўсіх людзей на зямлі.

У ГОНАР ЮБІЛЕЮ

## НОВАЯ МАНЕТА

Міністэрства фінансаў СССР і Дзяржаўны банк СССР паведамілі, што з першага снежня 1982 года выпускаецца ў абарачэнне юбілейная манета вартасцю ў 1 рубель у азнаменаванне 60-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.




КОСМАС

## ВАХТА НА АРБІЦЕ

Больш за дзвесце дзён Анатоль Беразавой і Валянцін Лебедзеў працуюць на арбіце, паспяхова выконваючы праграму самага доўгага ў гісторыі касманаўтыкі пілатуемага палёту на навукова-даследчым комплексе «Салют-7» — «Саюз Т-7» — «Прагрэс-16».

Экіпаж займаўся адпрацоўкай новых метадаў пабудовы арыентацыі і стабілізацыі арбітальнага комплексу, правёў цыкл даследаванняў прыродных рэсурсаў Зямлі. Па заданнях геолагаў касманаўты вялі здымку раёнаў Каўказа і Паўночнага Казахстана.

На ўстаноўцы «Крышталь» завершан яшчэ адзін эксперымент па касмічнаму матэрыялазнаўству. Адпрацаваўшае абсталяванне перанесена са станцыі ў адсек грузавога карабля, падрыхтавана да чарговай работы тэхналагічная апаратура «Карунд», праводзяцца эксперыменты па культываванню ва ўмовах бязважкасці вышэйшых раслін.

Вялікая ўвага ў ходзе палёту ўдзяляецца штодзённым заняткам фізічнымі практыкаваннямі на комплексным трэнажоры і велаэргометры. У мэтах падрыхтоўкі да вяртання на Зямлю касманаўты пачалі рэгулярныя трэніроўкі з выкарыстаннем вакуумнага касцюма «Чыбіс», у якім за кошт перападу барамертычнага ціску ствараецца прыліў крыві да ніжняй часткі цела і імітуецца дзеянне зямнога прыцягнення.

ВЫСТАЎКІ

## ДНІ ПОЛЬСКАЙ ТЭХНІКІ




У пятнаццаты раз прайшлі ў Савецкім Саюзе Дні польскай тэхнікі. Сёлета месцам іх правядзення выбран Мінск. Арганізатары — польская знешнегандлёвая палата і генеральнае консульства ПНР у Мінску пры садзейнічанні Гандлёва-прамысловай палаты БССР і ўсесаюзнага таварыства «Экспацэнтр».

Прадстаўнікі савецкіх прамысловых прадпрыемстваў пазнаёміліся з экспартнымі магчымасцямі польскай эканомікі. Вядучыя спецыялісты такіх фірм, як «Дазамет», «Тэхматранс», «Зугіль», «Эльтэрма», «Тэхмаробат», расказалі аб новых вырабах — станках з лічбавым праграмным кіраваннем, прамысловых робатах, сельгасмашынах, ліцейным абсталяванні, станцыях тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў, іншай тэхніцы.

На афіцыяльнай цырымоніі адкрыцця Дзён польскай тэхнікі прысутнічалі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Д. Данілаў, генеральны консул ГДР у Мінску П. Якабс, генеральны консул ПНР у Мінску Я. Рачкоўскі.

**НА ЗДЫМКУ:** польскія і савецкія спецыялісты ў час адкрыцця Дзён.

У БРАЦКАЙ ВЕНГРЫІ

## «ЭКСКУРСІЯ» ПА РЭСПУБЛІЦЫ

Магчымасць сваім тэлегледачам «наведаць» Беларусь дало Венгерскае тэлебачанне, якое паказала вялікую перадачу «Вечар Беларускага тэлебачання». Яе адкрыў кінарэпартаж пра сённяшні дзень, пра дасягненні Савецкай Беларусі ў брацкай сям'і народаў СССР. Венгерскія тэлегледачы пабывалі таксама на Палессі, пабачылі цудоўны помнік нашай архітэктуры — Сафійскі сабор у Полацку, пазнаёміліся з героямі каротказметражных мастацкіх стужак, пачулі творы з новай праграмы вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры».

Для аказання дапамогі ў падрыхтоўцы беларускай тэлепраграмы ў Будапешт выязджала дэлегацыя работнікаў рэспубліканскай тэлестудыі на чале са старшынёй Дзяржтэлерадыё БССР Генадзем Бураўкіным.

* * *

Дні Савецкай Беларусі прайшлі ў венгерскім горадзе Ньірэдзьхаза. Падчас Дзён была наладжана выстаўка. Яе экспазіцыя пазнаёміла з дасягненнямі БССР у галіне эканомікі і культуры. Былі таксама паказаны кінастужкі, прачытаны лекцыі пра жыццё нашай рэспублікі.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ

## НАВАСЕЛЛЕ Ў ЖАМЧУЖНЫМ

Вялікае наваселле ў пасёлку Жамчужны, што пад Баранавічамі, адбылося ў канцы лістапада. Будаўнікі здалі ў эксплуатацыю 92 арыгінальныя катэджы сядзібнага тыпу, прызначаныя для жывёлаводаў міжгаспадарчага прадпрыемства па вытворчасці свініны «Усходняе». Кожны разлічан на адну-дзве сям'і.

Жыллё прыгожае, зручнае. Трох-,чатырох-,пяціпакаёвыя кватэры забяспечаны цэнтральным ацяпленнем, гарачай і халоднай вадой, прыродным газам. Ёсць падсобныя памяшканні, падвалы з некалькіх секцый. Пры кожным доме невялікі прысядзібны ўчастак, дабротны хлеў, дзе можна ўтрымліваць жывёлу і птушку. Пракладзены спецыяльныя гаспадарчыя дарогі.

Жамчужны вызначаецца элегантнасцю забудовы, добраўпарадкаванасцю тэрыторыі. Уздоўж вуліц — асфальтаваныя тратуары, газоны.

У дамах ужо справілі наваселле 149 сем'яў рабочых, спецыялістаў і служачых прадпрыемства.

У Брэсцкай вобласці распрацаван і ажыццяўляецца план паскоранага жыллёвага будаўніцтва ў вёсцы. Штогод са зборных канструкцый намечана будаваць па пяцьсот катэджаў сядзібнага тыпу.

*КНІЖНЫ ЗНАК НА МІЖНАРОДНЫХ КАНГРЭСАХ*

# ВЫСОКІ АЎТАРЫТЭТ

Кожныя два гады ў розных краінах Заходняй Еўропы праходзяць Міжнародныя кангрэсы экслібрысістаў, на якія збіраюцца мастакі і калекцыянеры многіх еўрапейскіх краін, ЗША, Канады.

Сёлета ў англійскім горадзе Оксфардзе адбыўся чарговы XIX кангрэс. Па традыцыі тут была адкрыта вялікая міжнародная выстаўка экслібрыса, на якой экспанаваліся работы 365 мастакоў з 20 краін свету, у тым ліку і Савецкага Саюза. Быў прадстаўлены на выстаўцы і беларускі экслібрыс. Дарэчы, нашы мастакі ўдзельнічаюць у выстаўках і міжнародных кангрэсах, пачынаючы з 1974 года. Сёлета ў Англіі свае работы паказалі Л. Анцімонаў і Ю. Баранаў з Віцебска, мінчане У. Басалыга, Г. Грак, М. Селяшчук, Я. Цiхановіч. Да выстаўкі быў выдадзены цікавы каталог.

Адначасова з міжнароднай выстаўкай у Лондане па ініцыятыве сакратара Англійскага таварыства экслібрысістаў прафесара Лонданскага універсітэта У. Батлера, які, дарэчы, неаднаразова наведваў нашу краіну, адбылася выстаўка сучаснага савецкага экслібрыса. На ёй экспанаваліся работы 89 мастакоў з РСФСР, Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Азербайджана. Нашу рэспубліку прадстаўлялі тыя ж мастакі, што бралі ўдзел і ў міжнароднай выстаўцы ў Оксфардзе. Да выстаўкі выдадзены добра ілюстраваны каталог, у якім сабраны рэпрадукцый работ усіх удзельнікаў, пра кожнага ёсць кароткія біяграфічныя даведкі.

Гаворачы пра ўдзел беларускіх мастакоў у міжнародных кангрэсах, нельга пакінуць па-за ўвагай адну акалічнасць. Да асобных сваіх кангрэсаў Міжнародны саюз экслібрысістаў выдаў шэсць вельмі цікавых тамоў кнігі-альбома «Мастакі экслібрыса». У гэтым выданні, якое выходзіць тыражом усяго 500 нумараваных экземпляраў, змяшчаюцца артыкулы пра мастакоў тых краін, якія ўваходзяць у Міжнародны саюз экслібрысістаў. Артыкулы добра ілюстраваны, галоўным чынам адбіткамі з аўтарскіх дошак мастакоў (гэта значыць арыгіналамі), што яшчэ ў большай ступені павышае каштоўнасць выдання. Нягледзячы на тое, што Савецкі Саюз не ўваходзіць пакуль у гэтую арганізацыю, у трох апошніх тамах надрукаваны артыкулы і пра савецкіх мастакоў, што сведчыць пра вельмі высокі аўтарытэт савецкага экслібрыса на міжнароднай арэне. Галоўным ініцыятарам падрыхтоўкі такіх публікацый з'яўляецца вядомы партугальскі збіральнік і прапагандыст экслібрыса А. Да Мота Міранда, які падрыхтаваў апошнія чатыры тамы кнігі-альбома. Прыемна адзначыць, што ў гэтым аўтарытэтным выданні змешчаны артыкулы і пра беларускіх мастакоў. Так, у V томе, які выйшаў у 1980 годзе да кангрэса ў Аўстрыі, надрукаваны артыкул пра Юрыя Баранава, а ў VI (сёлетнім) — пра Генадзя Грака.

Усё сказанае тут лішні раз пацвярджае, што беларускі экслібрыс набыў шырокую вядомасць і прызнанне не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

Праз два гады ў горадзе Веймары (ГДР) адбудзецца юбілейны XX Міжнародны кангрэс, на якім плануецца ўступлен[…] [н]ашай краіны ў Міжнародны саюз экслібрысістаў.

Прапаную ўвазе чытачоў некалькі экслібрысаў з ліку тых, што экспанаваліся ў Англіі.

**Міхась МІНКЕВІЧ.**









# СКАРБЫ СТАРЫХ МАЙСТРОЎ

У людзей, па-сапраўднаму захопленых сваёй справай, час ляціць хутка. Таму цяпер дырэктару Дзятлаўскага музея народнай славы Міхаілу Петрыкевічу цяжка ўспомніць, калі ўсё гэта пачалося. Здаецца, зусім нядаўна ездзіў па вёсках, заходзіў у хаты, пытаўся — можа, у каго дакументы, фатаграфіі або іншыя рэчы захаваліся, каб дапоўніць экспазіцыю ў музеі рэвалюцыйнай і баявой славы землякоў.

І раптам, зайшоўшы ў адзін дом у Юровічах, на нейкі час зусім забыўся, навошта сюды завітаў. Яго ўразіла маслёнка. Падзівіўся Міхаіл Фёдаравіч, разглядаючы гэтую падзелку сельскага майстра, адшліфаваную да люстраной чысціні, са шчыльным, амаль герметычна дапасаваным вечкам — словам, зробленай цудоўна і захаваўшай сваё прызначэнне і прыгажосць да сённяшняга дня.

З таго часу вось ужо на працягу чатырнаццаці гадоў Міхаіл Фёдаравіч арганізуе пошукавыя экспедыцыі па вёсках Дзятлаўскага, Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў, каб сабраць скарбы старых сельскіх майстроў і з часам адкрыць у музеі асобную экспазіцыю.

— Як жылі, што ўмелі рабіць нашы бацькі і дзяды — аб гэтым мы павінны ведаць не толькі, каб любавацца майстэрствам старых умельцаў, але каб па-сапраўднаму цаніць тое, што ствараецца працай і талентам нашага народа, — гаворыць М. Петрыкевіч.

...Мы заходзім у адну з залаў музея народнай славы.

— Вось, — паказвае Міхаіл Фёдаравіч, — цікавая прылада працы сельскага майстра — самаробны такарны станок для апрацоўкі дрэва. Аўтар яго — селянін Іван Кіклевіч з вёскі Сланева Навагрудскага раёна, уся адукацыя майстра — прыхадская школа.

Канструкцыя станка, зразумела, самая простая. Прыводзіцца ён у рух уручную, пры дапамозе махавога кола, якое звычайна раскручваў вучань майстра. Раменная перадача, перасоўная карэтка для замацавання апрацоўваемай дэталі. Сам жа майстар трымаў разец у сваіх руках і «падводзіў» яго пад пэўным вуглом да загатоўкі.

Талент бацькі атрымаў у спадчыну сын. На месца старога сельскага токара Івана Кіклевіча стаў Іван Кіклевіч - малодшы. Ён і перадаў станок у дар музею.

Міхаілу Фёдаравічу, можна сказаць, пашанцавала на цікавыя знаходкі. Вось яшчэ адна з іх — драўляны млын хатняга карыстання. Яго пабудаваў сялянін вёскі Чарамушкі Навагрудскага раёна Сцяпан Анішчык у 1916 годзе, у часы кайзераўскай акупацыі, калі захопнікі крайне абмежавалі памол зерня для мясцовага насельніцтва. Гэта мукамольнае збудаванне мае ў сваім сячэнні квадрат, вышыня яго амаль два метры. Прыводзілася яно ў дзеянне конным прыводам. На ім можна было змалоць да трох пудоў мукі ў гадзіну. Млын С. Анішчыка часова перададзены ў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка - археалагічны музей і экспануецца ў адной з залаў.

**Р. МІХАЙЛАЎ.**

# Спорт

## «НЕГАСЦІННЫЯ» ГАСПАДАРЫ

Усесаюзны турнір бадмінтаністаў «Мінская восень» прайшоў у сталіцы Беларусі. Семнаццаты раз мацнейшыя спартсмены краіны разыгралі прызы. Адначасова гэтыя спаборніцтвы былі адборачнымі да маючага адбыцца чэмпіяната свету.

«Негасціннымі» аказаліся гаспадары — беларускія бадмінтаністы. На іх ліку найбольшая колькасць першых месц.

Майстры міжнароднага класа Святлана Бялясава (Магілёў) і Анатоль Скрыпко (Мінск) былі мацнейшымі як у адзіночных, так і ў парных разрадах. Святлана Бялясава да таго ж стала першай сярод змешаных пар.

## ПЯТЫ РАЗ

Чатырохразовы чэмпіён свету мінчанін Аляксандр Раманькоў пяты раз перамог у адкрытым першынстве Аўстрыі па фехтаванню. У фінале ён выйграў у італьянца С. Чарыёні, француза Ф. Амнеса і М. Гея з ФРГ. Гэтыя спаборніцтвы ідуць у залік Кубка свету.

## ЗА КУБАК СВЕТУ

У Будапешце завяршыліся спаборніцтвы па класічнай барацьбе на Кубак свету. Гаспадары ў фінале сустрэліся са зборнай СССР.

Савецкія барцы ўпэўнена выйгралі рашаючую схватку і трэці раз заваявалі ганаровы прыз. За нашу каманду ўдала выступіў прызёр сусветнага першынства віцябчанін Ігар Каныгін.

## АЛІМПІЙСКАЯ ПРЫКІДКА

Адразу, як толькі завяршылася апошняя сустрэча чэмпіяната краіны па футболу паміж «Спартаком» (Масква) — «Дынама» (Мінск), беларускія футбалісты Юрый Курненін, Сяргей Алейнікаў і Ігар Гурыновіч самалётам адправіліся ў Сочы. У складзе зборнай алімпійскай каманды СССР яны прынялі ўдзел у таварыскім матчы з добра вядомым шведскім клубам «Атвідаберг».

Беларускія футбалісты правялі гульню выдатна. Першы гол у вароты гасцей забіў Юрый Курненін, які ў Сочы быў капітанам.

Савецкія спартсмены атрымалі перамогу з лікам 3:1.

# ХОДЗІЦЬ У ШКОЛУ БАБУЛЯ...

Не вучыцца, а вучыць ходзіць васьмідзесяцідвухгадовая Ганна Курыловіч у школу пасёлка Шаркоўшчына. Самадзейная мастачка перадае дзецям сакрэты дэкаратыўнага жывапісу па тканіне.

Ста[…]ўняе рамяство не памерла. Яго спасцігаюць у мастацк[ім г]уртку бабулі Ані дзяўчынкі з шостага і сёмага класаў. Яркімі, радаснымі ўзорамі ўпрыгожваюць яны цяпер набор сурвэтак. Ганна Мікалаеўна стварае і вялікія «палотны» — своеасаблівыя дываны. Лепшыя работы яна падарыла школьнаму музею, у якім ёсць багатая калекцыя прадметаў ткацтва, гліняны і берасцяны посуд, адзенне і абутак, прылады працы беларускіх сялян далёкага мінулага. Экспанаты, сабр[…] вучнямі і іх бацькамі, займаюць чатыры пакоі. Тут творь[…] домых у раёне і вобласці ткачых і мастачак: Валянціны Пранько (яе дываны выстаўляліся ў музеях ЗША і Аўстраліі), Клаўдзіі Аршылоўскай і іншых.



**Сельскі заапарак створаны ў калгасе «Прагрэс» Гродзенскага раёна. У яго вальерах пасяліліся касуля, лама, каплан, янотападобныя сабака і іншыя экзатычныя прадстаўнікі фауны. Неўзабаве яго жыхарамі стануць зебра і поні. Даглядаць за жывёламі ахвотна памагаюць юннаты мясцовай школы.**

**НА ЗДЫМКУ: юннаты з ламай.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## Гумар

*— Тут, у вёсцы, — кажа селянін дачніку, — ранкам людзей певень будзіць.*

*— Выдатна! Пастаўце яго, калі ласка, на палову дзевятай.*

●

*— Скажы, дзе ты сёлета адпачываў?*

*— Не памятаю, а фотаплёнка яшчэ не праяўлена.*

●

*— Сёння Толік дрэнна паводзіў сябе, і я адправіла яго спаць без вячэры, — кажа жонка мужу, які вярнуўся з працы.*

*— А дарэмна! Калі ты на самай справе хацела яго пакараць, дык лепш бы яго прымусіла, каб з'еў сёння вячэру.*

●

*Урач доўга слухаў хворага, але дыягназ паставіць не здолеў і ўрэшце сказаў:*

*— Ідзіце дамоў, добра нагрэйцеся ў ванне, а потым без паліто пагуляйце на вуліцы.*

*— А якая з гэтага будзе карысць?*

*— Вы абавязкова схопіце запаленне лёгкіх, а гэту хваробу мы лёгка дыягнастуем і лечым.*

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 2126